# Ніва

ШТОТЫДНЁВІК

ГОД I № 38 БЕЛАСТОК, 18 ЛІСТАПАДА 1956 г. Цана 60 гр.


## РУНЬ

Шоўкам зялёным рунь разляглася
Сярод іржэўнікаў шэрых палос.
Сочна - бліскучая скрозь разраслася,
Ад стройных асін, да паніклівых лоз.

Вецер дуроннік пёркам гуляе,
Хоча ўсю рунь як ваду схваляваць.
Прамчыцца з падскокам, вяршкі заплятае,
То сіліцца ўверх іх раптоўна падняць.

У золаце сонечных кос за дарогай
Купаецца рунь на палёх цэлы дзень
І пёркам зялёным панікне з трывогай,
Як ночы марознай набліжыцца цень.

Пойдзем на поле, на рунь заглядацца.
Адну яе толькі шкадуе мароз.
Будзе па ветру сухі ліст бадзяцца,
З сабой не бяры толькі смеху і слёз.

М. БАЗЫЛЮК

# „ШТО З НАМІ БУДЗЕ"

Ужо на другі дзень VIII пленума прышлося не раз пачуць пытанне беларусаў «што з намі будзе?».

Як гэта растлумачыць? Як растлумачыць узнікненне пытання «што з намі будзе?», а яно ўзнікла не без прычыны. Апошнія падзеі — знамянальная дата ў гісторыі нашай грамадскасці. Доўгачаканая свабода слова падпарадкавала сабе сэрцы людзей.

Але ў гэтым энтузіязме пачуліся і варожыя, рэакцыйныя галасы, —групы польскіх нацыяналістаў і шавіністаў (яшчэ ёсць такія). Ім, зразумела, не падабаецца інтэрнацыяналізм у нашай палітыцы. Гэта факт. Нацыяналістычныя клічы і беспадстаўнае дакучанне беларусам, узмоцніліся ў апошнім часе.

Здзіўляе толькі, — якім правам гэтыя варожыя элементы асмеліліся супрацьпаўстаць справядліваму і разумнаму вырашэнню нацыянальных праблем партыяй. Якім правам, яны асьмельваюцца праследваць беларусаў. Хто даў ім такое права?

Беласточчына, асабліва яе ўсходнія паветы (дзе гуртуецца асноўная маса боларусаў і дзе апошнім часам мае месца шавіністычная нагонка на іх) гэта зямля т. сказаць гранічная. Беларусы яе засялялі, як толькі далёка сягае памяць гісторыі. Іх ніхто сюды не прывёз, яны з нікуль не прыйшлі, а жывуць і працуюць тут з дзеда-прадзеда. Гэта іх бацькаўшчына і гэты куток сваёй зямлі ім дарагі і яны яго не пакінуць.

На працягу гісторыі ўжо не раз выяўляліся імкненні польскіх нацыяналістаў, мэтай якіх было даказаць, што беларусаў няма.

Былі часы, калі захопнікі стасавалі розныя метады, каб імя беларус загінула, знікла. Мы сведкамі, што дарэмна іх праца і намаганні ў «поцечала». Не ўдалося.

Польскі шлях да соцыялізма — гэта шлях не толькі для палякаў, гэта шлях таксама і для беларусаў — польскіх грамадзян. Права беларусаў да гэтага шляху абгрунтавана вышэй сказанымі гістарычнымі ўмовамі, якія даюць права беларусу будаваць соцыялізм на той зямлі, дзе ён нарадзіўся. Права гэтае абгрунтована і барацьбой беларускага народа за свабоду і лепшыя дні. Бо трэба ведаць, што з санацыйным рэжымам змагалася Комуністычная партыя Польшчы пляча ў пляча з Комуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. Зрэшты як у радах КПП — былі беларусы, так у радах КПЗБ — палякі. І яны разам змагаліся за супольную справу — за вольную, незалежную Польшчу і за тое, каб у гэтай свабоднай незалежнай краіне добра было жыць і палякам і беларусам.

У час гітлераўскай акупацыі ізноў з нямецкімі фашыстамі за вызваленне Польшчы і Беласточчыны біліся і гінулі не толькі палякі, але і беларусы. Беласточчына абліта крывёю і пакрыта супольнымі магіламі беларускіх і польскіх салдатаў і партызан.

Калі возмем і пасляваенны час — разбураную Беласточчыну і перыяд адбудовы. Колькі ахвярнасці, адданасці выявілі беларусы ў гэты цяжкі час. Колькі сваіх сіл яны паклалі, каб змучаная Беластоцкая зямля ўзнялася да жыцця. Беларускі селянін і рабочы энергічна ўзяўся за працу над адбудовай краіны. Колькі актыўнасці, адданасці народнай уладзе і партыі выявілі беларусы ў гэты час. Яны словам і чынам баранілі перад рэакцыйнымі бандамі наш новы лад. Усё гэта неабвяргальныя ісціны.

Было шмат памылак у мінулым. Былі яны і ў адносінах да беларусаў. Але памылкі гэтыя не паўторацца. Працоўныя масы польскага, беларускага, украінскага і іншых народаў на чале з ПАРП, не дапусцяць да гэтага.

Нацыяналізм — вораг польскага шляху да соцыялізма, польскіх дзяржаўных інтарэсаў, і таму яму няма месца ў нашай краіне. Ён згіне.

Польскім шляхам да соцыялізма пойдуць так палякі як і беларусы. Польскі мадэль соцыялізма будуць рэалізаваць у штодзённым жыцці жыхары Заходніх і Цэнтральных земляў Польшчы, а таксама і наша Беласточчына з яе шматтысячным беларускім насельніцтвам.

«Што з намі будзе?» А вось што: мы будзем жыць на сваім месцы, працаваць на сваім кавалку зямлі, у сваёй вёсцы, ці горадзе. Нас ніхто не мае права адсюль выганяць і не выганіць. Тут наша бацькаўшчына. Мы роўнапраўныя гаспадары гэтай зямлі і будзем працаваць дзеля перамогі соцыялізма ў нашай краіне. З уласцівай беларусам сілай волі, выдатнымі вынікамі ў працы падтрымаем новае кіраўніцтва партыі, якое стаіць на варце справядлівасці ў адносінах да нацыянальных меншасцей у Польшчы, клеймуе і будзе караць усялякія праяўленні расавай дыскрымінацыі і пацвярджае правы нацыянальных меншасцей, у тым ліку і беларусаў, на роўнапраўнасць у палітычным, грамадскім і культурным жыцці краіны.

Так вось маецца справа з намі, беларусамі, у святле апошніх падзей.

P. S. Аб фактах дыскрымінацыі (праследванняў) просім паведамляць нашу рэдакцыю або Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

# За правільны шлях!

Восем месяцаў — кароткі перыяд часу. Занадта кароткі, каб займацца ацэнкай вынікаў працы нашага таварыства. Аднак з другога боку гэта дастаткова доўгі перыяд, каб глянуць на шлях, якім ідзе таварыства і падумаць аб яго правільнасці.

Таму з радасцю трэба прывітаць артыкул «Пара прачнуцца», надрукаваны ў 35 нумары «Нівы» які, трэба спадзявацца, выкліча на старонках нашага штотыднёвіка адпаведную дыскусію аб арганізацыйнай працы таварыства, яе кірунках і формах.

У лютым г. г. было паклікана да жыцця Галоўнае Праўленне БГ-КТ. Насустрач гэтай важнай падзеі ў нашым жыцці плылі надзеі і спадзяванні беларусаў у Польшчы, што ГП будзе ініцыятарам вялікай і шырокай працы сярод беларускага насельніцтва, працы — якая будзе імкнуцца да ліквідацыі адсталасці нашага насельніцтва ў галіне нацыянальнай культуры, ажыўлення беларускай асветы і школ, пашырэння звестак аб жыцці нашых братоў у Беларусі і г. д.

Мінаюць месяцы. На наш погляд, маем права і абавязак прыглядзіцца ажыццяўленню Галоўным Праўленнем гэтых пастулатаў. Вельмі трапна залічвае «Ніва» у цытаваным артыкуле да найвялікшых дасягненняў ГП, пакліканне да жыцця Павятовых праўленняў Аддзелаў. Самае акрэсленне мо' і не зусім удалае, але правільнае: дагэтуль практычна існуюць не А д з е л ы таварыства, а П р а ў л е н н і гэтых аддзелаў, якія як правіла, не праяўляюць больш сур'ёзнай дзейнасці. Цiснецца ў галаву лагічнае пытанне — што з'яўляецца прычынай гэтай арганізацыйнай змяртвеласці Павятовых аддзелаў таварыства?

Мы не ведаем падрабязнасцей супрацоўніцтва паміж ГП і праўленнямі Павятовых аддзелаў таварыства. Здаецца аднак, што асноўнай прычынай недахопаў у гэтай галіне з'яўляецца няправільная арганізацыйная структура таварыства. Нельга інакш назваць арганізацыі, якая не дайшла да мас, а затрымалася ў поўдарозе — на арганізаванні толькі Павятовых аддзелаў. Вынікам гэтага з'яўляецца, між іншым, такі факт, што перагружаныя прафесіянальнай і грамадскай працай, а таксама сямейнымі абавязкамі члены Павятовых праўленняў не маюць вялікіх магчымасцей разгарнуць працу таварыства нават у такіх асяроддзях як Бельск, Саколка, Гайнаўка, Семятычы ці Гарадок, не гаворачы ўжо зусім аб развіцці арганізацыйнай працы ў сваіх паветах, у бліжэйшых вёсках і мястэчках. Ці-ж можна мірыцца з фактам, што насельніцтва многіх беларускіх вёсак Беласточчыны да гэтай пары нямнога ведае нават аб існаванні таварыства?..

Таму першым вывадам, на наш погляд, з'яўляецца неабходнасць арганізаваць ва ўсіх буйнейшых асродках беларускага насельніцтва адпаведных мясцовых арганізацый таварыства — Аддзелаў ці Гурткоў — назва і форма не павінна тут мець большага значэння. Гэта безумоўна зблізіць працу таварыства да мас і з другога боку — выкліча з народных мас новых барацьбітаў за развіццё нашай нацыянальнай культуры.

Другая справа— гэта апека Галоўнага Праўлення над мясцовымі арганізацыямі таварыства. На гэтым месцы хочацца прывесці некалькі заўваг з вопыту супрацоўніцтва Варшаўскага Аддзела з ГП ў Беластоку, прычым вопыту не заўсёды вясёлага. Можна-бы без вялікага перабольшання так сфармуляваць агульнае становішча ГП у адносінах да Варшаўскага Аддзела — «працуйце, каб усё было добра, але пакінце нас у спакою».

Возьмем напрыклад справу кантактаў паміж Беластокам і Варшавай. Ці-ж можна лічыць нармальным становішча, калі прадстаўнік ГП заглядае ў Аддзел толькі пры нагодзе камандзіроўкі ў Варшаву, калі трэба тое-сёе ўладзіць у Варшаўскіх установах? Ці можна лічыць правільным спыняць пасяджэнне ў сувязі з такімі важнымі падзеямі, як канцэрт у Варшаве? Далей, ці нармальным можна лічыць становішча, калі ў найцяжэйшы арганізацыйна перыяд Варшаўскага Аддзела ніхто з ГП не заглядаў цэлымі тыднямі, пакідаючы Праўленне Аддзела на самацёк? Ці правільным нарэшце з'яўляецца становішча, каб замест актыўнай дапамогі ГП за кожную драбніцу патрэбную Аддзелу трэба было цяжка ваяваць з Галоўным Праўленнем?

На наш погляд — не!

Возьмем далей іншую справу — фінансавае забеспячэнне дзейнасці таварыства ў Варшаве. Зразумела, што бюджэт БГ-КТ, які складае на 1956 год каля 400.000 злоты, не мог забяспечыць нават часткі матэрыяльных патрэбнасцей мясцовых арганізацый таварыства. Хочацца аднак атрымаць з ГП вытлумачэнне — якая менавіта частка бюджэту была выкарыстана на фінансаванне дзейнасці Аддзелаў, а якая — на патрэбы ГП у Беластоку.

Не без цяжкасцей удалося Праўленню Варшаўскага Аддзела «вырваць» з бюджэту таварыства каля 10.000 злоты, што не забяспечыла нават сродкаў на абсталяванне Аддзела ў Варшаве. Як можна разумець забарону з боку ГП выдаткаваць некалькі сот злоты на важнае паведамленне ў Варшаўскім друку аб арганізаванні Беларускага хору ў Варшаве? Цікава было-б ведаць, як выглядаюць гэтыя справы ў Павятовых аддзелах? І калі не выглядаюць лепш чым у Варшаве, то ці не будзе лішняй раскошай кансумаванне бюджэтных сродкаў, якія дае дзяржава на развіццё культурнай працы сярод беларускага насельніцтва ў цэлай Польшчы, амаль выключна на патрэбы Галоўнага Праўлення ў Беластоку? Што новага ў гэ-

Працяг на стар 4.

 

# Нявырашаныя праблемы

Беларускія, асабліва сярэднія школы, у сваёй працы напатыкаюць на вялікія цяжкасці. У чым яны заключаюцца? Справа ў тым, што яшчэ аж дагэтуль няма праграм для беларускіх сярэдніх школ.

Калі настаўнікі ладзяць з такімі прадметамі як фізіка, хімія, матэматыка ці другія, бо і што-ж можна дадаць ці адняць з польскіх праграм, то ў супраціўнасць да гэтага, маюць яны цяжкасці з навучаннем беларускай мовы. Няма патрэбы растлумачваць важнасці беларускай мовы ў беларускай школе. Таму гэта праблема такая балючая і яе трэба вельмі хутка вырашыць.

Дагэтуль былі спробы з боку і Міністэрства асветы, і Аддзела асветы ВРН у Беластоку, і ВОДКО, у напрамку апрацавання праграмы. Падрыхтавана матэрыялы, сабралася камісія, у склад якой уваходзілі найлепшыя знаўцы беларускай мовы ў Польшчы, — зрабілі праект праграмы і... на гэтым скончылася. Мінуў год і больш, а аб праграме нічога не чуваць. Зразумела, што апрацаванне праграмы нялёгкая справа і вымагае крыху часу.

Ведаем і аб тым, што шмат клопатаў ёсць і з праграмамі для польскіх школ. Але трэба памятаць і аб тым, што ўжо па 5—6 год беларускія сярэднія школы працуюць без праграмы па роднай мове. На працягу такога часу можна было што-небудзь зрабіць. Тут няма ніякіх сумненняў. Вельмі добра, што Міністэрства асветы, Аддзел асветы ў Беластоку і ВОДКО паставілі перад сабой вялікую задачу, якой з'яўляецца апрацаванне праграмы. Нелічыліся аднак яны з сваімі сіламі і пералічыліся. Трэба сказаць сабе ясна. У нас няма яшчэ ані такіх кадраў і знаўцаў беларускай мовы, каб вырашыць так важную і адказную праблему.

Часам трэба прызнацца да сваіх слабасцей і шукаць развязкі ў іншым месцы. Нядаўна ў «Новай Культуры» тав. Матушэўскі пішучы аб праблемах палякаў — жыхароў Совецкага Саюза ў Львове, гаварыў і аб праблемах асветы. Там польскія школы, якія гуртуюцца ў Вільнюсе і Львове, змагаюцца з падобнымі праблемамі. Праграмы... і падручнікі, у якіх шмат недахопаў.

Тое самае і ў нас. Ці-ж можна вучыць моладзь мовы, калі ў падручніку ёсць памылкі. Можна рабіць памылкі ўсюды (хаця не вельмі гэта з'яўляецца пажаданым), але ў падручніках ні за што.

У Польшчы ёсць беларускія, украінскія, літоўскія, славацкія і іншыя школы. У Совецкім Саюзе — польскія. Маюць яны ўсе аднолькавыя цяжкасці. Ці-ж не можна з боку Міністэрства асветы дапамагчы ў апрацоўцы праграм і падручнікаў польскім школам у СССР, а з боку Совецкага Саюза — прыслаць спецыялістаў мовазнаўцаў беларускай і украінскай моў. Карысці будуць для абодвух старон. А найбольш скарыстаюць з гэтага навучэнцы. Можна было ўжо гэта зрабіць даўно, але «лепш позна, чым зусім не» гаворыць старая прыказка. Няма чаго чакаць. Не патрапім самі, шукайма дапамогі і то неадкладна. Гэта адна справа.

Ёсць другая справа не менш важная і балючая. Усім вядома, што каб школы добра працавалі павінна быць з боку асветных улад так званая «педагагічная кантроля». З гэтай кантроляй у беларускіх школах няважна. Хай сведчыць вось напрыклад такі факт,

Ніна Лебедзінская адразу пасля заканчэння Педагагічнага ліцэя ў Бельску, пайшла працаваць у Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы. Навучае яна беларускую мову ў ліцэальных класах. Працуе ўжо там 4 гады. І на працягу гэтага часу ніхто не быў у яе на ўроку. Не было ніякай візітацыі з боку Аддзела асветы ВРН, якому непасрэдна школа падлягае.

Я — гаворыць Ніна — раблю што магу, не маю заўваг з боку дырэкцыі, аднака-ж хацелася-б ведаць ацэнку сваёй працы з боку асветных улад. Чалавек у працы-ж робіць памылкі.

Як-жа можна пакінуць маладую настаўніцу самой сабе. Яна больш чым хто іншы патрабуе дапамогі, добрай парады. Праўда, ліцэй у Гайнаўцы «візітуецца» даволі часта, але ніхто не адважыўся прыйсці на ўрок беларускай мовы.

Зразумела, што працаўнікі Аддзела асветы не абавязаны ведаць беларускую мову, але ёсць візітатар, які адказвае толькі за справы беларускіх школ. І нажаль ён таксама баіцца, відаць, хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Гэта справа не толькі Гайнаўскага ліцэя — гэта справа і Педагагічнага ліцэя ў Бельску і Агульнаадукацыйнага таксама ў Бельску, і іншых.

Дырэктар Педагагічнага ліцэя ў гутарцы на гэтую тэму сказаў коратка. «Хто дапаможа? — няма-ж каму».

Ці сапраўды на Беласточчыне не знойдзецца настаўнік, які навучае ўжо шмат год беларускую мову, якога можна было-б прызначыць на пасаду візітатара беларускіх школ і які будзе візітаваць урокі беларускай мовы ў сярэдніх школах? Напэўна ёсць. Кіраўніцтва Аддзела няхай падумае над гэтым. Напэўна знойдзецца. Трэба толькі мацней узяць гэтую справу да сэрца.

М. М.

## Народная кераміка Беласточчыны



*На здымку: чорна-серабрысты збан (сівак). Курыльная кераміка, аздоблівана паліроўкай. Зрабіў: Лявон Саласцікевіч, з Кляшчэляў Беластоцкага ваяводства.*

## Адказ на анкету „Сам вырашыш аб сваім часопісе" Да „Нівы"

Я «Ніву» чытаю,
«Ніву» паважаю,
Я кожну старонку
«Нівы» вывучаю.

Шкала, што дагэтуль
Сваю мову родну
Многія лічылі
Для сябе нягоднай.

І многа выпадкаў
Гэтакіх бывала,
Што за год «панюся»
Мову забывала.

Прыедзе дахаты
Зачне шчабятаці,
Не разбярэ бацька,
Не разбярэ маці.

Я ўсіх беларусаў
Прашу добрым словам,
Вывучайце мову,
Не саромцесь мовы.

Хто чытае «Ніву»
Знае ўсё без дзіва,
Куток «Пазнаёмімсь»
Яна нам адкрыла.

І толькі ахвотных
Нямнога бывала,
Ажно «Пазнаёмімсь»
І зусім прапала.

І тут прашу «Ніву»
І прашу чытачоў
Хай зноў «Пазнаёмімсь»
Хутка пачне працу.

І прашу таксама
Няхай «Ніва» шчыра
Гумар замяшчае
Ні-ж дагэтуль — шырай.

Няхай нашу «Ніву»
Вершы ўслаўляюць,
Няхай нашу «Ніву»
Песні апяваюць.

Хто шчэ з беларусаў
«Нівы» не чытае,
Хай яе здабудзе
И мову вывучае.

На канец я «Ніве»
Дзякуй пасылаю
І на новы нумар
Чым хутчэй чакаю!

УЛАДЗІМІР ГАЙДУК
Тарнопаль
пошта Лука
пав. Гайнаўка.

БАЛЕСЛАЎ МАНКЕВІЧ

# Гутаркі аб мове

## (Гутарка 3 — працяг)

*ў* (нескладовае) пішацца ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы слова пасля галосных, напрыклад: *народная ўлада, заўсёды, чытаў.*

Калі *у*, будучы асобным словам, стаіць пасля іншага слова, якое канчаецца на галосны, то яно пераходзіць у *ў: Янка вучыцца ў пятым класе.*

Таксама пасля злучка, калі папярэдняе слова або першая частка складанага слова (калі яно пішацца са злучком) канчаецца на галосны, пішацца *ў: рабочыя-ўдарнікі, поўночна-ўсходні.*

У вершах для захавання рытму часам пішуць *ў* (нескладовае) там, дзе павінна быць *у* (складовае).

У беларускай мове гук *ў* утвараецца з наступных гукаў: з гуку *в* у пачатку і ў сярэдзіне слова пасля галоснага перад зычным: *трава — траўка, галава — галоўка,* а таксама ў канцы слова пасля галоснага: *словы — слоў;*

з гуку *у* (складовага), калі ён апыніцца пасля галоснага перад зычным: *удзел — пры ўдзеле, участак — на ўчастку;*

з цвёрдага *л* пасля галоснага: *воўк, поўны, доўга, чытаў* (параўнайце з рускімі: волк, полно, долго, читал).

### КАЛІ ТРЭБА ПІСАЦЬ І, А КАЛІ Й?

*І* (складовае) пішацца тады, калі яно з'яўляецца склада-ўтваральным гукам: *зім-ні, кра-і, га-і, дні і ночы.*

*Й* (нескладовае) пішацца ў сярэдзіне ці на канцы слова пасля галоснай: *край, гай, байка, ручай.*

Перад галоснымі літара *й* не пішацца, бо гук *й* разам з наступнымі галоснымі *э, о, у, а* перадаецца на пісьме літарамі *е, ё, ю, я: мае (майэ), тваё (твайо), юнацтва (йунацтва), новая (новайа).*

Напісанне злучэнняў *іё (ыё), ія (ыя), іе (ые)*

У словах іншамоўнага паходжання злучэнне *іо* не пад націскам і злучэнне *іа* пасля мяккіх зычных перадаюцца праз *ія,* а пасля цвёрдых *д, т,* і зацвярдзелых *ж, ш, ч, ц, р* — праз *ыя,* напрыклад: *біялогія, бібліятэка, соцыялістычны, геніяльны.* Выключэннямі з'яўляюцца *радыё, трыё.*

Пад націскам *іо* перадаецца праз *іё (ыё): біёлаг, патрыёт, стадыён, Ліён.*

Злучэнне галосных *іе* перадаецца праз *іе (ые): гігіена, дыета, аудыенцыя.*

Злучэнне *іо* ў канцы геаграфічных назваў перадаецца праз *іо (ыо): Токіо, Рыо-дэ-Жанейро, Онтарыо.*

### ЯК ПІШУЦЦА ІМЁНЫ, ПРОЗВІШЧЫ І ГЕАГРАФІЧНЫЯ НАЗВЫ?

Беларускія імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы пішуцца згодна з іх вымаўленнем у беларускай мове: *Сяргей, Ганна, Чарнякоў, Орша, Магілёў, Рэчыца.*

Імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы іншамоўнага паходжання пішуцца з захаваннем асаблівасцей той мовы, з якой яны ўзяты. Так, напрыклад, захоўваюцца пачатковыя *О, Э: Одэса, Ока.*

Захоўваецца ненаціскное *е, э; Александр, Сергеевіч Пушкін, Тарас Грыгор'евіч Шэўчэнка.*

Захоўваюцца пачатковыя *В, Т, Сч: Владзімір, Владзікаўказ, Тэрэк, Счасліўцэў.*

Аднак напісанне гэтых імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў падлягае наступным правілам беларускага правапісу: ненаціскное *о* пераходзіць у *а: Масква, Смаленск, Варонеж;* пасля зацвярдзелых зычных пішуцца *а, о, у, э, ы: Шэўчэнка, Разань, Чэхаў;*

*в* пасля галосных пераходзіць у *ў: Каўказ, Шолахаў, Кіеў; д, т* пры мяккім вымаўленні перадаюцца праз *дз, ц: Владзімір, Дзержавін, Анціпаў;* злучэнне *тс* пераходзіць у *ц: Іркуцк, Якуцк.*

Польскія геаграфічныя назвы з канчаткамі на *-ów, -ew* у беларускай мове перадаюцца праз *-аў, -эў: Kraków — Кракаў, Zambrów — Замбраў, Tczew — Тчэў, Parczew — Парчэў.*

### ПРАКТЫКАВАННІ

А цяпер вазьміце сшытак, які вы ўжо пэўна падрыхтавалі, і прарабіце наступныя практыкаванні:

1. Перапішыце словы, змяняючы іх так, каб *е, ё,* перайшлі ў *я,* напрыклад: *лес — лясы, вёдры — вядро;* пастаўце націск і падкрэсліце галосную ў першым складзе перад націскам.

Сем'і, сцены, снег, сёстры, селянін, вёсны, леснікі, цесляры, вербы, мётлы, сёлы, след, гнёзды, певуны.

2. Дадзеныя словы змяніце так, каб *о, э* сталі не пад націскам, напрыклад: *колас — каласы, сустрэча — сустракаць.*

Дом, голас, холад, поле, рэчка чэрап, цэгла, горад, брод, корм, чорны, шоўк, шэры, рог, цэны, лось, стог, мурог, сноп, копы, волас, стол, човен, двор.

3. Перапішыце ўрывак верша Петруся Броўкі «Мір нам патрэбен!» і падкрэсліце словы, у якіх ёсць *ў* або *й.*

Як толькі ўзыходзіць зара над зямлёй,
Дзень радаснай працы займаецца мой,
Відаць мне, як токар стаіць за станком,
Як каменшчык ўзводзіць вялікасны дом,
Як экскаватар пракладае шлях,
Як з кніжкамі дзеці збіраюцца ў клас,
Што птушкі шчабечуць... Шчаслівы іх час!
Таварыш,
Сягоння ў нас думы адны:
Мір нам патрэбен,
Не трэба вайны!



 

